Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

19 чэрвеня 1991 г. СЕРАДА

№ 118 (21646)

Цана 10 кап.

## Чалавек і яго справа

Гэтыя здымкі знаёмяць з хірургам Эдуардам Іванавічам ТРУБЕЦКІМ і перавязачнай медсястрой Аляксандрай Ануфрыеўнай ГОТА з Мінскай чацвёртай клінічнай бальніцы. Яны працуюць у адным з самых цяжкіх аддзяленняў—гноевай хірургіі. Амаль трыццацігадовы стаж кожнага з іх, а таксама высокі прафесіяналізм дае падставу сцвярджаць: менавіта такім спецыялістам абавязаны тысячы былых пацыентаў гэтай бальніцы. За выратаванае жыццё і здароўе, за чуласць і дабразычлівасць шчыра дзякуюць ім людзі.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

### ЗАПРАШЭННЕ ДА ДЫЯЛОГА

**У ЦК Кампартыі Беларусі ўстаноўлены тэлефоны прамой сувязі. Калі вы хочаце задаць пытанні і атрымаць адказы па праблемах, якія вас цікавяць, унесці прапановы, выказаць заўвагі, параіцца — званіце па тэлефонах 29-36-61, 29-36-70 з 16 да 19 гадзін штодзённа, акрамя суботы і нядзелі.**

Прэс-служба ЦК КПБ.

### ПАЧАТАК ПАКЛАДЗЕНЫ

**ЖЛОБІН. (М. Шуканаў). На падставе рашэння мясцовага райвыканкома ў раёне для вядзення сялянскіх гаспадарак выдзелена 444 гектары зямлі. Уладальнікамі яе сталі 11 чалавек.**

Гэтай вясной на атрыманай фермерамі зямлі пасаджана бульба, пасеяны караняплоды, зерневыя і іншыя культуры. Сялянскім гаспадаркам для набыцця тэхнікі, насення, будматэрыялаў, жывёлы Аграпрамбанк выдаў 144 тысячы рублёў, 150 тысяч выдзеліў разлікова-фінансавы цэнтр аграпрамысловага аб'яднання «Жлобінскае».

Такім чынам, пачатак стварэння сялянскіх гаспадарак на Жлобіншчыне пакладзены.

### З ТАМОЖНІ... Ў МУЗЕЙ

**ВІЦЕБСК. У выставачнай зале Віцебскага абласнога краязнаўчага музея адкрылася даволі цікавая выстаўка «Шэдэўры з таможні». Вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, іконы, выкананыя ў лепшых традыцыях рускага ювелірнага мастацтва і іканапісу, чаканка—вось далёка не поўны пералік тых каштоўнасцей, якія змогуць пабачыць жыхары і госці абласнога цэнтра.**

Усе гэтыя шэдэўры канфіскавалі работнікі брэсцкай таможні, часцей за ўсё ў супрацоўнікаў замежных прадстаўніцтваў у СССР, якія, карыстаючыся статусам недатыкальнасці багажу, імкнуцца вывезці творы мастацтва на Захад, дзе яны вельмі высока цэняцца. А сапраўдным перлам выстаўкі з'яўляецца драўляная ікона «Багародзіца Суцяшэнне хворых» з прымацаванымі да яе манетамі XIX стагоддзя.

### ПАРТКОМАЎСКАЯ

**МІНСК. Партком БДУ імя У. І. Леніна і Савет сакратароў цэхавых партарганізацый знайшоў магчымасць са сваіх сродкаў назначыць з верасня гэтага года стыпендыю імя Уладзіміра Пічэты, першага рэктара універсітэта. Яе будуць атрымліваць студэнты, якія зробяць найвялікшыя поспехі ў вывучэнні і прапагандзе беларускай мовы, літаратуры і культуры. Размер стыпендыі — 50 рублёў.**

Стыпендыя імя У. Пічэты можа быць назначана студэнтам, пачынаючы з 2-га курса, якія здалі апошнюю сесію на «добра» і «выдатна» незалежна ад сваёй матэрыяльнай забяспечанасці і партыйнай арыентацыі.

Стыпендыю змогуць атрымліваць і тыя студэнты, якія актыўна выступаюць з дакладамі, прысвечанымі праблемам беларускай мовы, літаратуры і культуры, робяць вусныя выступленні перад грамадскасцю і публікацыі ў перыядычным друку на тэмы, звязаныя з прапагандай беларускай культуры, працуюць на грамадскіх курсах (кафедры) па выкладанню беларускай мовы, вядуць работы па аднаўленню помнікаў архітэктуры Беларусі і інш.

### ВЫКАНКОМ ВЫЯЗДЖАЕ НА МЕСЦА

**ОРША. (А. Манькоў). У раёне ўвайшло ў практыку правядзенне пасяджэнняў выканкома раённага Савета народных дэпутатаў непасрэдна на месцах — у працоўных калектывах прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, арганізацый і ўстаноў. З удзелам гаспадарчых кіраўнікоў, усіх зацікаўленых асоб, прадстаўнікоў грамадскасці ідзе шчыры разбор становішча спраў, робіцца аналіз прычын недахопаў, прымаюцца меры па іх выпраўленню.**

На апошнім такім выязным пасяджэнні выканкома райсавета абмеркавана пытанне аб рабоце выканкома Смальянскага сельскага Савета па сацыяльна-эканамічнаму развіццю тэрыторыі. У Пазізоўскім сельсавеце размова ішла аб дзейнасці самадзейных грамадскіх арганізацый працоўных. Члены выканкома райсавета выказалі нямала слушных заўваг і парад аб тым, якім чынам палепшыць работу селькомаў, бацькоўскіх камітэтаў, жаночых саветаў, добраахвотных народных дружын і іншых грамадскіх арганізацый.

### ЗМЕНЫ Ў ВЯРХАХ

**ГРОДНА. Адбыўся чарговы пленум праўлення абласной арганізацыі Саюза журналістаў БССР. У сувязі з выхадам на пенсію задаволена просьба А. Богуша аб вызваленні яго ад абавязкаў старшыні праўлення. Выкананне абавязкаў старшыні пленум усклаў на намесніка старшыні праўлення абласной журналісцкай арганізацыі, старшыню аблтэлерадыёкамітэта І. Граблеўскага да справаздачна-выбарчай канферэнцыі, якая будзе праведзена ў канцы кастрычніка гэтага года.**

### У БЕЛАРУСІ БУДЗЕ ПОМНІК ПАЛІТЫЧНЫМ РЭПРЭСІРАВАНЫМ

**У Маскве адбылася прэзентацыя, прысвечаная рэгістрацыі Мінюстам РСФСР Усесаюзнай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій сталінскага перыяду. Пасля прэзентацыі адбыўся пашыраны пленум Усесаюзнай, Расійскай і Маскоўскай асацыяцый, на якім вырашаліся бягучыя пытанні. Прадстаўніком ад Беларусі на ім прысутнічала старшыня Бабруйскага аддзялення Усесаюзнай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій Ганна Богач, якая расказала аб праведзенай рабоце па стварэнню Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі.**

У сераду адбудзецца сход Бабруйскага аддзялення, дзе будуць вырашацца пытанні па стварэнню асобных рабочых камісій.

Цяпер у Бабруйску налічваецца 630 рэпрэсіраваных, дзяцей і ўдоў рэпрэсіраваных, якія атрымліваюць ільготы, прыроўненыя да льгот інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны. Наладжаны дзелавыя кантакты з мясцовымі органамі ўлады, у прыватнасці, са старшынёй камісіі па справах рэпрэсіраваных пры гарвыканкоме Г. Малікавай.

На адным з нядаўніх сходаў рэпрэсіраваных пры ўручэнні пасведчанняў на льготы старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў В. Алімбочкаў паведаміў, што помнік ахвярам рэпрэсій у Бабруйску будзе пабудаваны ў недалёкім часе за кошт гарбюджэту.

## Пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### АБ АРГАНІЗАЦЫЙНА-ЭКАНАМІЧНАЙ ПЕРАБУДОВЕ ЗАМЕЖНАГА ТУРЫЗМУ Ў БЕЛАРУСКАЙ ССР

У адпаведнасці з дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ў мэтах максімальнага выкарыстання турысцкага патэнцыялу, развіцця знешнеэканамічных сувязей, больш поўнага задавальнення патрэбнасці замежных турыстаў у азнаямленні з дасягненнямі рэспублікі, яе нацыянальнай культурай і мастацтвам, павелічэння валютных паступленняў Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Прызнаць уласнасцю Беларускай ССР наступныя прадпрыемствы і арганізацыі Дзяржаўнага камітэта СССР па замежнаму турызму, размешчаныя на тэрыторыі Беларускай ССР:

Беларускае ўпраўленне Дзяржаўнага камітэта СССР па замежнаму турызму.

Гасцініцы «Юбілейная», «Планета» ў г. Мінску, матэль-кэмпінг «Мінскі», «Інтурыст» у г. Брэсце, вытворча-эксплуатацыйны камбінат Дзяржаўнага камітэта СССР па замежнаму турызму, які будуецца ў г. Мінску.

2. Даручыць Савету Міністраў Беларускай ССР вырашыць ва ўстаноўленым парадку пытанне аб утварэнні ў рэспубліцы арганізацыі па замежнаму турызму і аб парадку ўзаемаразлікаў гэтай арганізацыі з Усесаюзным акцыянерным таварыствам па замежнаму турызму «Інтурыст» (УАТ «Інтурыст»).

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.

7 чэрвеня 1991 г. г. Мінск.

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ У ПАСТАНОВУ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР АД 21 СНЕЖНЯ 1990 ГОДА «АБ УВЯДЗЕННІ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА БЕЛАРУСКАЙ ССР «АБ ІНДЭКСАЦЫІ ДАХОДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА З УЛІКАМ ІНФЛЯЦЫІ»

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Пункт 2 пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 21 снежня 1990 года «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Беларускай ССР «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1990 г., нумар 2, арт. 20) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Зацвердзіць з 1 мая 1991 года наступную шкалу нарматываў індэксацыі на кожны працэнт росту індэкса спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 300 рублёў — 1%;

ад 301 да 600 рублёў — 0,5%.

Частка даходу, якая перавышае 600 рублёў, не індэксуецца».

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.

13 чэрвеня 1991 года. г. Мінск.

### АБ ПАРАДКУ ЎВЯДЗЕННЯ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА БЕЛАРУСКАЙ ССР «АБ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ССР»

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Беларускай ССР «Аб культуры ў Беларускай ССР» з моманту яго апублікавання ў друку, а артыкул 35, раздзелы VIII і IX Закона — з 1 студзеня 1992 года.

2. Устанавіць, што надалей да прывядзення заканадаўства Беларускай ССР у адпаведнасць з Законам Беларускай ССР «Аб культуры ў Беларускай ССР» прымяняецца дзеючае заканадаўства, паколькі яно не супярэчыць гэтаму Закону.

3. Савету Міністраў Беларускай ССР да 1 студзеня 1992 года:

— прадставіць у Вярхоўны Савет Беларускай ССР прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Беларускай ССР у адпаведнасць з Законам Беларускай ССР «Аб культуры ў Беларускай ССР»;

— прывесці рашэнні ўрада Беларускай ССР у адпаведнасць з Законам Беларускай ССР «Аб культуры ў Беларускай ССР»;

— забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Беларускай ССР іх нарматыўных актаў, у тым ліку інструкцый, якія супярэчаць названаму Закону.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.

4 чэрвеня 1991 г., г. Мінск.

## СТАЧКОМ, ТЫ НЕ МАЕШ РАЦЫІ

**18 чэрвеня дэпутаты вярнуліся да абмеркавання патрабаванняў стачачных камітэтаў аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, дэпалітызацыі праваахоўных органаў, аб уласнасці КПСС—КПБ.**

Галасаваннем было вырашана абмежаваць дыскусію дзвюма гадзінамі, а на выступленне адводзіць не дзесяць мінут, як раней, а пяць. Далейшыя падзеі паказалі, што такі падыход у прынцыпе аказаўся правільным. Парламентарыі яшчэ толькі ішлі да трыбуны, а зала ўжо ведала, пра што яны скажуць. Палярнасць падыходу да названых праблем вызначала і змест прамоў. Так, камуністы Яўген Радзецкі, Мікалай Каваль, Вінцэнты Казяк і іншыя лічаць, што сама пастаноўка пытання аб дэпартызацыі з'яўляецца зневажальнай для ўсіх членаў КПСС. Іх апаненты са стану апазіцыі Мікалай Крыжаноўскі, Ігар Пырх, Яўген Новікаў і іншыя перакананы — патрабаванні стачкомаў справядлівыя. Кожны з бакоў у доказ сваёй справядлівасці спасылаўся на Канстытуцыю СССР і БССР, саюзнае і рэспубліканскае заканадаўствы, міжнародныя юрыдычныя акты. І выходзіла, што ўсе выступаюць за найстражэйшае захаванне законнасці. Толькі вось бяда — кожны трактуе закон, як яму выгадней.

Прагучалі і некалькі непрывычныя, новыя прапановы Анатоль Лябедзька, напрыклад, лічыць, што Вярхоўны Савет рэспублікі ў свой час дапусціў памылку, адмовіўшыся ад ідэі круглага стала і фарміравання ўрада народнага давер'я. Таму ў цяперашняй абстаноўцы ёсць, на яго погляд, толькі адзін разумны выхад — забараніць на тэрыторыі Беларусі дзейнасць усіх арганізацый, якія ставяць на ўвазе палітычныя мэты, тэрмінам на тры гады, а ўсе намаганні сканцэнтраваць на адраджэнні эканомікі.

Народны дэпутат СССР першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Анатоль Малафееў выклаў сваё бачанне праблемы. На яго думку, паяўленне ў парадку дня сесіі разглядаемага пытання — вынік палітычных камбінацый лідэраў БНФ, якія рукамі дэпутацкага корпуса спрабуюць расправіцца са сваімі палітычнымі праціўнікамі. Кампанія насільнага выгнання Кампартыі са сфер чалавечай дзейнасці носіць антыканстытуцыйны, антызаконны характар. Ён падкрэсліў, што апазіцыя страчвае пачуццё меры, любое іншадумства для яе становіцца нецярпімым. Калі так пойдзе і далей, то гэта можа прывесці да вельмі сур'ёзных ускладненняў.

Далей Анатоль Малафееў сказаў: выступленне народнага дэпутата БССР камуніста Аляксандра Лукашэнкі — пытанне хутчэй унутрыпартыйнага парадку, але пакінуць без увагі яго заяву і спробы глумлення над партыяй я проста не маю маральнага права. Ён абвінавачвае ЦК у развале эканомікі, у іншых грахах і ў той жа час робіць усё магчымае, каб звязаць ЦК рукі і паралізаваць практычную дзейнасць. Абурае амаральнасць спробы Лукашэнкі проціпаставіць Цэнтральны Камітэт камуністам, якія працуюць ва ўрадзе. Проста незразумела, як можна развальваць партыю знутры і ў той жа час прэтэндаваць на нейкую асаблівую ролю ў ёй.

Лідэр Кампартыі Беларусі растлумачыў, што ўласнасць КПСС—КПБ адносна невялікая (101 млн. рублёў), што яна стваралася пакаленнямі камуністаў, а сродкі, якіх не хапала, выдаваліся ў выглядзе датацыі з касы ЦК КПСС. За апошнія 50 гадоў іх сума склала 143 мільёны рублёў. Такім чынам, уласнасць КПСС—КПБ з'яўляецца агульнапартыйным набыткам і не ўлічваць гэту акалічнасць проста нельга. У сувязі са скарачэннем партыйнага апарату КПБ бязвыплатна перадала Саветам 19 будынкаў. Для аздараўлення людзей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, зусім нядаўна выдзелена 250 мільёнаў рублёў.

Аляксандр Лукашэнка, папрасіўшы слова для даведкі, паведаміў: апошнімі дакументамі ЦК КПБ у Саветах прадугледжана стварэнне партыйных фракцый. Тады, чым

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# АБ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ССР

Кіруючыся Канстытуцыяй (Асноўным Законам) Беларускай ССР і Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, зыходзячы з норм міжнароднага права, усведамляючы жыццёвую неабходнасць адраджэння беларускай культуры, захавання яе самабытнасці, цэласнасці і стварэння спрыяльных умоў для яе далейшага развіцця, як і для развіцця культуры грамадзян Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей, Вярхоўны Савет Беларускай ССР прымае Закон Беларускай ССР «Аб культуры ў Беларускай ССР».

Закон накіраваны на:

рэалізацыю суверэнных правоў Беларускай ССР у галіне культуры;

ажыццяўленне прынцыпаў ідэалагічнай і палітычнай незалежнасці культуры ад грамадска - палітычных структур;

стварэнне прававых умоў для свабоднага самаразвіцця культурных працэсаў;

забеспячэнне матэрыяльных і фінансавых гарантый развіцця культуры і сацыяльную абарону работнікаў культуры ва ўмовах рыначных адносін.

### Раздзел I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Заканадаўства аб культуры ў Беларускай ССР**

Заканадаўства аб культуры ў Беларускай ССР складаецца з гэтага Закона і прынятых у адпаведнасці з ім іншых заканадаўчых актаў Беларускай ССР.

**Артыкул 2. Задачы заканадаўства аб культуры**

Заканадаўства Беларускай ССР аб культуры рэгулюе грамадскія адносіны па ўстанаўленню арганізацыйна-прававых і эканамічных гарантый стварэння, захавання, распаўсюджвання і папулярызацыі твораў матэрыяльнай і духоўнай культуры, па захаванню і перадачы культурных традыцый, па ахове гістарычных і культурных каштоўнасцей у мэтах:

адраджэння і развіцця беларускай нацыянальнай культуры і культур нацыянальных супольнасцей Беларусі як састаўной часткі агульначалавечай культуры;

фарміравання культурнага асяроддзя, маральных асноў, эстэтычных поглядаў і густаў народа і далучэння яго да мастацкай творчасці, да гуманістычных каштоўнасцей культуры.

**Артыкул 3. Асноўныя прынцыпы культурнай дзейнасці**

Асноўнымі прынцыпамі культурнай дзейнасці ў Беларускай ССР з'яўляюцца:

свабода творчай дзейнасці і самаразвіццё культурных працэсаў, плюралізм напрамкаў і стыляў у творчасці, адмаўленне ад манапалізму ў культуры;

абарона інтэлектуальнай уласнасці;

агульнадаступнасць духоўных каштоўнасцей;

права на бесперашкодную культуратворчую дзейнасць на тэрыторыі Беларускай ССР для ўсіх нацыянальных супольнасцей;

прыярытэт умоў для развіцця беларускай нацыянальнай культуры;

гуманістычная накіраванасць, узмацненне асабовага пачатку ў культурнай дзейнасці, арыентацыя на агульначалавечыя каштоўнасці, высокамаральны характар культуры;

забеспячэнне сувязей беларускай нацыянальнай культуры з культурамі іншых народаў;

спалучэнне дзяржаўных і грамадскіх асноў у арганізацыі культурнай дзейнасці;

поўная самастойнасць культурнай дзейнасці Беларускай ССР.

### Раздзел II. ГРАМАДЗЯНІН, ДЗЯРЖАВА І КУЛЬТУРА

**Артыкул 4. Правы грамадзян Беларускай ССР на творчасць і карыстанне дасягненнямі культуры.**

Грамадзяне Беларускай ССР маюць права на свабоду мастацкай творчасці і права на карыстанне дасягненнямі культуры.

Грамадзяне Беларускай ССР маюць права займацца любым відам культурнай дзейнасці, акрамя той, што забаронена Законам, і аб'ядноўвацца ў творчыя саюзы, асацыяцыі, таварыствы і іншыя культурныя суполкі.

**Артыкул 5. Абавязкі дзяржавы ў галіне культуры**

Дзяржаўныя органы ва ўзаемадзеянні з грамадскімі аб'яднаннямі абавязаны забяспечваць развіццё культуры і нясуць адказнасць за духоўнае, маральнае і эстэтычнае выхаванне грамадзян. Яны абавязаны ўдасканальваць сістэму сацыяльных, арганізацыйна - прававых і эканамічных гарантый развіцця мастацтва і культуры і ствараць неабходныя ўмовы для далучэння грамадзян да нацыянальнай і сусветнай культурнай спадчыны; фарміраваць сістэму прадпрыемстваў і ўстаноў мастацтва і культуры; выдзяляць неабходныя матэрыяльныя і фінансавыя сродкі; забяспечваць правядзенне навуковых даследаванняў і распрацоўку навуковых праектаў у галіне культуры, падрыхтоўку кваліфікаваных кадраў; ствараць гарантыі і стымулы мастацкай творчасці, зберажэння традыцыйнай культуры (фальклор, народныя промыслы, рамёствы), выкарыстання дасягненняў культуры; забяспечваць фарміраванне і эстэтызацыю жыццёвага асяроддзя чалавека, абарону інтарэсаў народа Беларусі ў галіне культуры.

**Артыкул 6. Абавязкі грамадзян у галіне культуры**

Грамадзяне Беларускай ССР абавязаны беражліва адносіцца да гісторыка - культурнай спадчыны Беларусі.

Бацькі, апекуны, папячыцелі і асобы, якія замяняюць іх, абавязаны клапаціцца аб усебаковым культурным і эстэтычным развіцці і маральным удасканаленні дзяцей.

**Артыкул 7. Кампетэнцыя Беларускай ССР у галіне культуры**

Веданню Беларускай ССР у асобе яе вышэйшых органаў улады і кіравання ў галіне культуры належыць:

вызначэнне стратэгіі і зацвярджэнне рэспубліканскіх праграм развіцця культуры;

устанаўленне прыярытэтаў і льгот у развіцці культуры;

забеспячэнне развіцця інфраструктуры культуры;

устанаўленне парадку арганізацыі, рэарганізацыі і ліквідацыі прадпрыемстваў і ўстаноў культуры;

устанаўленне навукова абгрунтаваных матэрыяльных і фінансавых норм забеспячэння ўстаноў культуры, нарматываў культурнага абслугоўвання насельніцтва;

забеспячэнне падрыхтоўкі кадраў і павышэнне іх кваліфікацыі, арганізацыя навуковых даследаванняў у галіне культуры;

ажыццяўленне навукова-метадычнага кіраўніцтва прадпрыемствамі і ўстановамі культуры;

ажыццяўленне кантролю за выкананнем заканадаўства аб культуры ўсімі прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі незалежна ад іх ведамаснага падпарадкавання і форм уласнасці;

вырашэнне іншых пытанняў у галіне культуры ў адпаведнасці з заканадаўствам Беларускай ССР.

Кампетэнцыя мясцовых Саветаў народных дэпутатаў у галіне культуры вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 8. Прыярытэты ў галіне развіцця культуры**

Беларуская ССР вызначае матэрыяльна - фінансавыя прыярытэты:

адраджэнню, зберажэнню, развіццю і распаўсюджванню беларускай нацыянальнай культуры;

стварэнню і папулярызацыі твораў мастацтва і літаратуры для дзяцей, іх эстэтычнай адукацыі і выхаванню;

папулярызацыі класічных твораў айчыннага і сусветнага мастацтва і лепшых узораў сучаснай культуры;

забеспячэнню развіцця культуры ў сельскай мясцовасці, пашырэнню культурнай інфраструктуры вёскі.

**Артыкул 9. Мова ў галіне культуры**

Мова з'яўляецца універсальным сродкам увасаблення нацыянальнай культуры. Моўная палітыка ў галіне культуры вызначаецца Законам Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР».

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# СТАЧКОМ, ТЫ НЕ МАЕШ РАЦЫІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

мы супярэчым гэтым дакументам, стварыўшы ў Вярхоўным Савеце фракцыю «Камуністы БССР за дэмакратыю»? — задаў ён пытанне. Далей Лукашэнка падкрэсліў, што заява, якую ён зрабіў, «гэта не мая заява, а заява партыйнай групы, якую падпісалі не адзін і не два дзесяткі чалавек». Незразумела і аб якім развале партыі знутры ідзе размова, калі гэта парламенцкая камуністычная партыйная група.

Па абмеркаванаму пункту парадку дня Вярхоўны Савет прыняў рад пастаноў. У першай з іх гаворыцца, што «патрабаванні аб дэпартызацыі, забароне дзейнасці на дзяржаўных прадпрыемствах і у арганізацыях, размешчаных на тэрыторыі Беларускай ССР, палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў незаконныя, супярэчаць Канстытуцыі Беларускай ССР, міжнародна-прававым нормам і нормам дзеючага заканадаўства. Змяшчаецца патрабаванне да палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларускай ССР, у сваёй рабоце «строга кіравацца заканадаўствам Беларускай ССР». Пракуратуры Беларускай ССР і яе органам на месцах даручаецца «забяспечыць нагляд за выкананнем законаў аб дзейнасці палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў дзяржаўнымі прадпрыемствамі, арганізацыямі і грамадзянамі, а таксама палітычнымі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі. Вінаватых у парушэнні прыцягваць да ўстаноўленай законам адказнасці». У другой —«Аб уласнасці КПСС—КПБ» — патрабаванні аб нацыяналізацыі ўласнасці КПСС—КПБ прызнаюцца «супярэчачымі Канстытуцыі і законам Беларускай ССР».

У сувязі з прыняццем гэтых рашэнняў не былі прыняты Законы БССР «Аб унясенні змяненняў у Закон Беларускай ССР «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР», прапанаваны камісіяй па заканадаўству і «Аб унясенні змяненняў у законы Беларускай ССР «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР» і «Аб міліцыі», прапанаваны дэпутатам І. Пырхам.

У. ГЛОД,
А. КРЫЖАНОЎСКІ,
В. СІВАКОЎ,
парламенцкія карэспандэнты БЕЛТА.

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

Мінск

## НЕ ГУБЛЯЙЦЕ ПАШПАРТЫ, НЕ ГУБЛЯЙЦЕ

**МАГІЛЕЎ. Адміністрацыйная камісія пры Кастрычніцкім райвыканкоме вырашыла разгледзець матэрыялы па захаванню пашпартнага рэжыму. І што ж. Высветлілася цяжкае становішча — многія грамадзяне губляюць свае пашпарты або наўмысна псуюць іх. А іншыя наогул пражываюць па несапраўдных пашпартах. Таму і звярнулася камісія да жыхароў раёна з заклікам берагчы гэтыя асноўныя дакументы. Бо без іх, як вядома,— і не туды, і не сюды.**

## ПАНІКОЎСКІ БЫЎ БЫ ЗАДАВОЛЕНЫ

**АШМЯНСКІ РАЁН. (А. Дук). Здаецца, усе ведаюць, як захапляўся вядомы герой Ільфа і Пятрова Панікоўскі гусінай шыйкай. У хуткім часе змогуць ёй аддаць належнае і працаўнікі ашмянскага калгаса «Маяк».**

**Дзеля гэтага яны не пабаяліся выйсці на міжнародную арэну: праўленне гаспадаркі заключыла кантракт з дацкай фірмай «Легард» па вырошчванню гусей мясной пароды. За тры месяцы птушкі набіраюць у вазе 7—8 кілаграмаў.**

Пятнаццаць тысяч крылатых гадаванцаў з-за мяжы з камфортам уладкаваліся ўжо ў калгасным птушніку. Плануецца давесці іх колькасць да 30 тысяч. 700 тон мяса ў год зможа рэалізоўваць калгас, а гусіны пух пойдзе на экспарт.

Майстры з дацкай фірмы ладзяць лінію для апрацоўкі птушкі, яны ж дапамагаюць асвоіць тэхналогію вырошчвання маладняку.

Ашмянскія гаспадыні чакаюць дацкіх гусей на прылаўках магазінаў.

## УСІМ РЭКОРДАМ—НАШЫЯ ІМЁНЫ

**БАБРУЙСК. (В. Зіноўскі). Поспехі беларускіх гімнастаў вядомы ва ўсім свеце. Аднак, каб нам заўсёды заставацца на ўзроўні, неабходна клапаціцца аб падрастаючым пакаленні спартсменаў.**

Пасля двух гадоў «блукання па пакутах» амаль 300 гімнастаў горада і іх трэнераў, нарэшце, дабіліся свайго. Па рашэнню Дзяржкамітэта БССР па фізічнай культуры і спорту для будаўніцтва ў Бабруйску школы па спартыўнай гімнастыцы выдзелены 346 тысяч рублёў і неабходныя будаўнічыя матэрыялы.

Плануецца, што мантаж будынка школы агульнай плошчай 900 кв. м пачнецца ўжо ў гэтым годзе, а завершыцца ўзвядзенне ў канцы года.

## ФАЛЬШЫВЫЯ ДОЛАРЫ—НА РАЗМЕН

**Рады фальшываманетчыкаў папоўніліся яшчэ адным прадстаўніком: на гэты раз ім аказаўся жыхар Арменіі А. Ён быў затрыманы паставым міліцыянерам у мінскай гасцініцы «Юбілейная» ў той час, калі хацеў абмяняць фальшывую банкноту ў сто долараў ЗША на рублі. Не паспеў! Узбуджана крымінальная справа.**

## ДАПАМАГАЮЦЬ ПЕРАСЯЛЕНЦАМ

**ДОКШЫЦЫ. (М. Аўтух). Пакуль народныя дэпутаты з высокіх трыбун гавораць палымяныя прамовы пра неабходнасць аблегчыць лёс пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы, сельскія будаўнікі Докшыцкага раёна робяць гэта на справе.**

У саўгасе «Чырвонабярэзінскі», напрыклад, будаўнічыя арганізацыі перадалі перасяленцам пяць дамоў-катэджаў, літаральна праз некалькі дзён «пад ключ» будзе здадзена яшчэ пяць.

А ў вёсцы Параф'янава будуецца цэлы пасёлак — 22 дамы сядзібнага тыпу. Гаспадарчыя будынкі ўжо гатовыя, пачынаецца будаўніцтва кватэр. Дзесяць дамоў з'явіцца і ў калгасе імя Я. Коласа, тры — у саўгасе «Докшыцкі».

Усяго ж сёлета ў раёне плануецца пабудаваць для чарнобыльцаў 50 дамоў.

## Спорт

## МІНЧАНКА—КАПІТАН ЧЭМПІЁНАК

**Учора ў Ізраілі закончыўся чэмпіянат Еўропы па баскетболу сярод жаночых каманд.**

У фінальным матчы сустрэліся зборныя Савецкага Саюза і Югаславіі. З лікам 97:84 перамаглі савецкія спартсменкі, якія і заваявалі залатыя медалі чэмпіёнак кантынента.

На гэтым чэмпіянаце капітанам савецкай зборнай была спартсменка мінскага «Гарызонта» майстар спорту міжнароднага класа Ірына Сумнікава.

**Выпуск падрыхтавалі: У. ГОЙТАН, І. КАРНЕЙ, А. КОКТЫШ, А. СЛАНЕЎСКІ, С. СУЛКОЎСКІ.**
**Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.**

# „Перамагайце зло дабром..."

**Апошнім часам мы сталі прывыкаць да самых нечаканых, самых недаступных раней звестак, паведамленняў. На старонках газет з'яўляюцца інтэрв'ю і рэпартажы з ахутаных таямніцай ведамстваў — КДБ, розных сакрэтных архіваў і г. д. Але нават у такой абстаноўцы прэс-канферэнцыя Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II, на якую журналістаў гасцінна запрасілі ў сцены Мінскай Экзархіі, выклікала зразумелы інтарэс. Думаем, што нашым чытачам таксама будзе цікава звярнуцца да слова Патрыярха.**

— Самае моцнае ўражанне, якое атрымліваеш пры знаёмстве з рэспублікай, —сустрэчы з людзьмі. Гэта асноўнае багацце Беларусі. Паўсюдна, дзе былі, мы бачылі дагледжаныя палі, што сведчыць пра руплівасць беларусаў, іх клопат аб заўтрашнім дні. Для мяне духоўным абагачэннем з'явілася датыканне да шматпакутнай беларускай зямлі. Менавіта, тое, што гэта зямля бачыла шмат гора, яна адкрытая для асвяшчэння, чакае яго і гатова прыняць у сябе гаючую благадаць Боскую.

Тры катастрофы, тры бяды адбыліся ўжо на нашых вачах з беларускім народам. Першая — Вялікая Айчынная вайна, што агнём і мукай апякла кожнага беларуса. У гэтыя дні, калі паўвека пралятлі паміж намі і горка-палыновым днём пачатку вайны, мы малітоўна ўспамінаем тых, хто загінуў...

Другая бяда апаліла Беларусь зусім нядаўна, пяць гадоў назад. Адбылося страшнае: зямля, вада, паветра сталі варожымі чалавеку. Тое, што павінна падтрымліваць жыццё, стала несці хваробу і смерць. Людзі вымушаны баяцца сваёй роднай зямлі. Які страшны сімвал!

І трэцяя бяда — гэта дзесяцігоддзі самай нястрыманай антырэлігійнай вайны. Мы ўсе памятаем, як нам абяцалі зрабіць беларускі народ татальна няверуючым, а беларускую зямлю — зямлёю без храмаў. Дэнацыяналізацыя Беларусі адным са сваіх страшных лікаў мела разбурэнне духоўных, рэлігійных традыцый народа. І гэты духоўны Чарнобыль пераадолець нам будзе не лягчэй, чым красавіцкую катастрофу 1986 года. Называць вінаватых, праклінаць іх, патрабаваць пакарання бяссэнсава. Успомнім словы святога апостала Пятра: «Не будзьце пераможанымі злом, але перамагайце зло дабром».

Бездухоўнасць нам трэба заўважыць перш за ўсё ў нас саміх, у сваёй душы весці барацьбу за сваё духоўнае адраджэнне і, тым самым, за духоўнае адраджэнне свайго народа.

**—Чым можа дапамагчы беларуская праваслаўная Царква ў святой справе адраджэння беларускай культуры і беларускага народа?**

— Ва ўсе часіны знакам культурнай сталасці народа было распаўсюджанне ў ім Свяшчэннага Пісання на яго роднай мове. Пасля многіх дзесяцігоддзяў разрыву духоўнай і культурнай традыцыі беларусы зноў могуць чытаць Евангелле на роднай мове. У сувязі з гэтым паўстае не менш складаная задача — трэба распрацоўваць беларускую багаслоўскую і філасофскую мову. Думаю, што па меры распрацоўкі жывой і зразумелай беларускай багаслоўскай мовы, прывыкання да яе людзей і духавенства будзе адраджацца і ўмацоўвацца традыцыя царкоўнай пропаведзі на беларускай мове. Я веру, што духоўнае адраджэнне Беларусі зможа пракласці шлях творчасці і стварэнню — насуперак усім катастрофам.

**— Ці азначае Ваш візіт, што ў далейшым руская праваслаўная Царква будзе аказваць матэрыяльную дапамогу людзям, пацярпеўшым ад Чарнобыля?**

— Такая дапамога з боку Царквы аказваецца і цяпер. У Беларусі створана спецыяльная сінадальная камісія па ліквідацыі вынікаў аварыі. Узначальвае камісію Мітрапаліт Філарэт. Паступае і гуманітарная дапамога ад хрысціян іншых краін. Міжнародныя хрысціянскія арганізацыі жадаюць даваць сродкі на ажыццяўленне канкрэтных праграм — напрыклад, на стварэнне рэабілітацыйных цэнтраў, асабліва для дзяцей. На Украіне мы прапанавалі стварыць два такіх цэнтры — для хлопчыкаў у Брацкім корпусе Пачаеўскага манастыра і для дзяўчынак. На Захадзе спадзяёмся атрымаць для іх абсталяванне, медыкаменты. Чым больш мы сутыкаемся з вынікамі бяды, тым болей разумеем: патрэбны энергічныя практычныя дзеянні ўсіх, у тым ліку духавенства, а не агульныя тэарэтычныя разважанні.

**— У Пасланні Іаана Багаслова маецца як бы прамое ўпамінанне чарнобыльскай катастрофы. Калі так, то ці не лічыце Вы, што ў хуткім часе могуць збыцца яго прароцтвы?**

— Я не лічу, што ў Адкравеннях Іаана Багаслова ёсць прамое ўказанне аб Чарнобылі. Там гаворыцца аб будучых лёсах царквы і свету. Але ці тая гэта катастрофа, аб якой ён памінаў, ці будзе новая? Як бы там ні было, людзі павінны будаваць сваё жыццё на аснове вечных маральных і духоўных хрысціянскіх каштоўнасцей.

**— Якімі бачацца ў будучым узаемаадносіны Царквы і арміі?**

— Лічу, што многія нападкі на армію, якія мы сёння маем, адбываюцца па прычыне таго, што армія не стала да канца дзяржаўным інстытутам, яна занадта палітызаваная. У выніку цяжка задавальняць духоўныя патрэбы тых, хто служыць. У канкрэтных сітуацыях такое супрацоўніцтва ёсць, нямала прыкладаў, калі ваенныя не адмаўляюць царкве ў дапамозе. Увогуле армія, яе ўклад у нейкай ступені блізкія да царкоўнага — і тут, і там людзі служаць. Гэты дух служэння грамадству і Айчыне — тое агульнае, што робіць магчымым наша супрацоўніцтва. У многія ваенныя вучылішчы запрашалі святароў, каб яны мовілі слова ў дапамогу. Мы ўмешваемся таксама ў любыя спробы разбурыць свяшчэнныя магілы воінаў, што загінулі па-за межамі сваёй краіны. Думаю, што пасля пераадолення палітызацыі арміі ў нас будзе болей падстаў да супрацоўніцтва.

**— У парламенце Беларусі працуюць чатыры дэпутаты — прадстаўнікі рускай праваслаўнай Царквы. Як вы расцэньваеце гэты факт? Ці мае намер Царква дабівацца пашырэння свайго прадстаўніцтва ў парламентах?**

— Іншымі словамі, як магчыма ў краіне, дзе Царква аддзелена ад дзяржавы, выбранне прадстаўнікоў Царквы ў вышэйшы орган улады? Так, Царква аддзелена ад дзяржавы, але — не ад грамадства. І інтарэсы веруючай часткі грамадства мы прадстаўляем і абараняем у разнастайных выбарных органах. Тое, што ў беларускім парламенце прадстаўлены чатыры святары, сведчыць аб паспяховым развіцці дэмакратычных працэсаў у рэспубліцы. Думаю, што ў перыяд станаўлення нашай дзяржаўнасці, у перыяд выпрацоўкі закона аб свабодзе сумлення, аб рэлігійных аб'яднаннях — удзел прадстаўнікоў царквы выключна важны. Сёння мы задаволены, што нашы прадстаўнікі ўносяць нейкі прымірэнчы фактар у напружанасць парламенцкага жыцця. Што будзе далей? Жыццё пакажа.

**— Ад вайны нас аддзяляюць паўвека, ад Чарнобыля — пяць гадоў, а людзі працягваюць гінуць сёння, уцягнуўшыся ў міжнацыянальныя канфлікты, напрыклад, на Паўночным Каўказе. Якія намеры праваслаўнай Царквы ў гэтай сувязі?**

— Мы імкнёмся ўсім магчымым дапамагчы пераадоленню міжнацыянальных крызісаў, канфліктаў. У сакавіку гэтага года правялі ў Маскве ініцыятыўную сустрэчу прадстаўнікоў асноўных рэлігій і цэркваў нашай краіны. Гэта была першая сустрэча ва ўмовах рэлігійнай свабоды. Мы і раней сустракаліся, але тады размова ішла аб захаванні міру ў свеце. Цяпер клапоцімся аб міры ў сваім доме. Думаю, у канцы года ўдасца правесці прадстаўнічую сустрэчу, дзе адкрыта пагаворым аб усім, што можа і павінна зрабіць Царква для прадухілення кровапраліцця. Што датычыць канкрэтных выпадкаў, то, напрыклад, звяртаўся да веруючых Паўднёвай Асеціі з заклікам да прымірэння. Гэта наша агульная зямля, на якой мусім жыць мірна. Будзем весці прымірэнчую работу і далей.

**— Ваша Святасць, уласцівымі духавенству лічацца некаторыя мірскія заняткі — пчалярства, цяслярскае майстэрства... Даводзілася чытаць, што ў маладыя гады Вы былі страсным аўтааматарам, праводзілі шмат гадзін за рулём. Ці так гэта? І ці могуць разлічваць на Ваша асаблівае заступніцтва людзі за рулём?**

— Па-першае, было гэта не ў такія ўжо маладыя гады... Сапраўды, любіў выехаць на аўтамабілі ў адпачынак. Уся мая ранейшая работа (22 гады з'яўляўся Кіраўніком спраў Маскоўскай патрыярхіі), а таксама епіскапская дзейнасць — вельмі напружаная. Таму іншы раз дастаткова было на адзін тыдзень паехаць, пабыць сам-насам з прыродай, спыніцца там, дзе хочаш. Вельмі люблю збіраць грыбы.

Што датычыць заступніцтва... Я заўсёды перажываю, калі гінуць, калечацца людзі. Мы павінны быць уважлівымі, беражлівымі адзін да аднаго.

Дай Бог, сказаў у завяршэнне Яго Святасць, каб міналі Беларускую зямлю беды, каб яе народ ва ўмовах суверэнітэту змог будаваць належачае яму жыццё, каб расла наша агульная маральнасць.

На прэс-канферэнцыі выступіў Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, патрыяршы Экзарх Беларусі Філарэт.

**Як бачым, Патрыярху давялося адказваць на самыя розныя пытанні. Па-рознаму можна адносіцца да высноў, да самога візіту, але выключна важным уяўляецца тое, што мы, нарэшце, успомнілі пра вельмі значную частку нашага грамадства— вернікаў. Яго Святасць меў на Беларусі сустрэчы з кіраўнікамі рэспублікі—Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам, намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета БССР В. Шаладонавым. У цырымоніі ўскладання вянка да помніка Перамогі ўдзельнічалі, як паміналася, В. Шаладонаў, намеснік Старшыні Саўміна рэспублікі М. Дзямчук, міністр замежных спраў П. Краўчанка. Акрамя раней памянёных у нашай газеце мерапрыемстваў, Патрыярх адслужыў паніхіду ў Курапатах — па пацярпеўшых за веру і праўду. Далей яго шлях — на апаленыя Чарнобылем Магілёўшчыну і Гомельшчыну.**

Л. РЫЖАНКОВА.

**На здымках:** у час знаходжання Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II на Беларусі.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# «Водгук» вяртае надзею

## 22 ПОЛЬСКІЯ СЯМ'І ПАЖАДАЛІ ЎСЫНАВІЦЬ ДЗЯЦЕЙ ЧАРНОБЫЛЯ

Усё пачалося са звычайнай журналісцкай камандзіроўкі.

Святлана Саўрасава, тады яшчэ супрацоўніца часопіса «Парус», пабывала ў адным з раёнаў «жорсткага кантролю». Пабачыла там многае. Боль, страх, надзея — у вачах людскіх. А самае ўражлівае — вочы дзяцей. У іх яшчэ і неразуменне таго, што нешта адбылося. Што? За што? Чаму? Як ім растлумачыць, дзе знайсці тыя словы? Ды і ўвогуле, ці дапамогуць яны?

А ў хуткім часе ў польскай газеце «Права і жыччэ» з'явіўся артыкул С. Саўрасавай, у якім яна звярнулася да палякаў за дапамогай. І людзі адгукнуліся: пайшлі пісьмы, тэлеграмы ад грамадскіх арганізацый, сем'яў, польскага касцёла з запрашэннямі для дзяцей на лячэнне і аздараўленне. Зрабіць гэта было нялёгка — трэба выбіць грошы, набыць білеты, знайсці транспарт. Дзеля ўсяго гэтага прыйшлося развітацца з любімай работай. Спачатку займалася ўсім гэтым адна, а затым знайшліся аднадумцы — інжынер, фізік, матэматык. Вось так і была створана новая грамадская дабрачынная арганізацыя «Водгук». Зарэгістравана яна ў Міністэрстве юстыцыі ў лістападзе 1990 года.

Паўмільёна дзяцей жыве ў забруджанай радыяцыяй зоне, з іх 4.825 — сіроты. Пытаннямі іх аздараўлення і лячэння займаюцца розныя грамадскія аб'яднанні, іх сёння ўжо многа. Але і дапамога «Водгуку» тут будзе нялішняй. Мяркуйце самі: толькі летась дзякуючы менавіта гэтай арганізацыі на лячэнні ў Польшчы пабывала звыш шасці тысяч дзяцей, да канца гэтага года за мяжой пабываюць яшчэ 10 тысяч маленькіх чарнобыльцаў, там жа летась быў арганізаваны міжнародны сімпозіум «Медыцына і Чарнобыль» з прыцягненнем замежных урачоў, якія абследавалі і лячылі нашых дзяцей; на сродкі, сабраныя дабрачынным цэнтрам, закуплены імпартнае зімовае адзенне і абутак для дзяцей-сірот, перададзена 10 тон лекаў Мінскай дзіцячай інфекцыйнай бальніцы і Слаўгарадскай райбальніцы.

Сваю галоўную задачу «Водгук» бачыць у аб'яднанні грамадскіх, дзяржаўных намаганняў для барацьбы з вынікамі аварыі на ЧАЭС, фарміраванні грамадскай думкі, прыцягненні новых сіл і сродкаў.

Аднак не для таго, каб пахваліцца гэтымі справамі, лічбамі, намерамі, праводзілі прэс-канферэнцыю прадстаўнікі бюро дабрачыннага цэнтра — выконваючая абавязкі старшыні Таццяна Кот, намеснік старшыні Ларыса Агафоненка і намеснік начальніка аддзела сацыяльнай абароны дзяцей Міністэрства народнай адукацыі БССР Станіслаў Бубен.

Праблем, у першую чаргу фінансавых, у гэтай арганізацыі больш чым дастаткова. На сённяшні дзень толькі 1.200 рублёў знаходзіцца на яе рахунку. Каторы ўжо месяц без зарплаты працуюць старшыня бюро, намеснікі, тэхнічныя работнікі. Спачатку вялікую фінансавую падтрымку аказалі літаратурна-выдавецкае агенцтва «Эрыдан», кааператывы «Сузор'е» і «Логас», Дзяржкамітэт БССР па праблемах ліквідацыі вынікаў катастрофы, чытачы газеты «Поиск», якая правяла спецыяльную акцыю. На жаль, пералік спонсараў, як бачыце, аказаўся вельмі кароткім. Вялікія цяжкасці з аўтатранспартам — часам дзеці перавозяцца з грубымі парушэннямі правіл бяспекі. Не далей, як шостага чэрвеня, напрыклад, у Польшчу накіроўвалася група дзяцей па запрашэнню Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі ў аўтобусах, багажныя адсекі якіх былі забіты каністрамі з бензінам. Дастаткова маленькай неасцярожнасці, каб машыны разам з дзецьмі ўзляцелі ў паветра. А ўсё з-за эканоміі выдзяляемай на паліва валюты.

— Паспрабуй скажы аб гэтым таму ж «Белаўтатурысту», дзе мы арандуем аўтатранспарт, як у адказ прагучыць: вазіце на чым хочаце, — гаворыць Таццяна Аляксандраўна Кот.— А возьмем фінансавую праблему. У нас ужо адключалі тэлефоны, бо за іх карыстанне мы не можам заплаціць. У Брэсце быў такі выпадак. Там адна група засталася начаваць і да мяне падышоў заплаканы хлопчык — у яго не было 2 рублёў, каб заплаціць за вячэру. Хадзім літаральна з працягнутай рукой. Страхоўкі аплачваюцца толькі ў валюце, некалькі разоў польскі бок сам выдзяляў валютныя сродкі. А што ж нашы арганізацыі? Былі выпадкі, калі салідныя дырэктары адкрытым тэкстам згаджаліся аказаць фінансавую дапамогу за льготны ўезд у Польшчу сваіх супрацоўнікаў або дзяцей. Такое «спонсарства» нам, зразумела, не патрэбна.

Ну, а што ж палякі? Яны сустракаюць нашых дзяцей з усёй гасціннасцю і цеплынёй. Зусім нядаўна ў Мінск звaніла Ізабэла Дукачэўска з тэлебачання: «Мы завалены пісьмамі! Дзяцей гатовы ўзяць хоць сёння: і ў сем'і, і ў пансіянаты». Дарэчы, у горадзе Торунь са снежня мінулага года лечыцца група — 164 выхаванцы трох дзіцячых дамоў з Гомельскай вобласці. На заклік мясцовага органа ўлады аб тым, каб пасяліць гэтых дзяцей на прыватных кватэрах, адгукнуліся 340 польскіх сем'яў.

І вось тут пачынаецца самае цікавае. 22 польскія сем'і звярнуліся ўжо ў гэтым годзе ў савецкае пасольства з просьбай аб усынаўленні 30 дзяцей, што жылі ў іх. Прычым заяўляюць прама: дзяцей не аддадзім!..

Расказвае С. Бубен:

— З групай работнікаў нашага міністэрства я пабываў нядаўна ў Торуні. Сапраўды, за прайшоўшыя месяцы дзеці вельмі прывыклі да тых людзей, з якімі жылі ўвесь гэты час, яны свабодна размаўляюць па-польску, жывуць у добрых умовах. Што ж датычыць палякаў, то яны заяўляюць, што дзяцей проста схаваюць, калі паспрабуюць іх адабраць...

Сітуацыя сапраўды надзвычайная. Тры камісіі— Вярхоўнага Савета БССР, Міністэрства юстыцыі і рэспубліканская пракуратура — разглядалі гэты варыянт. Ніякае канкрэтнае рашэнне пакуль што не прынята. Але, відаць, можна ўжо сказаць, што варыянт з усынаўленнем не пройдзе. У нас пакуль няма законаў, якія б маглі рэгуляваць такое пытанне. Па консульскіх правілах і са згоды нашага пасольства можа весціся гаворка толькі аб устанаўленні апякунства тэрмінам да двух гадоў.

— Гэта пытанне, — гаворыць Л. Агафоненка,—чамусьці набыло ў нас палітычную афарбоўку. Маўляў, губляем сваіх дзяцей, якія нават не паспелі разабрацца, што такое Радзіма. Вось акалечаць яго, апалячаць...

Але ж галоўнае тут — каб ачалавечылі. Дзіця падлечыцца, адпачне ў нармальных умовах, а затым зноў у гэты бруд? Так што маем мы сёння дзве пазіцыі: «ні за што не аддадзім» і «вярнуць, не задумваючыся».

«Я шчыра веру ў людскую дабрыню, але гэта зразумець не магу. У адзін-два выпадкі паверыў бы, але вось у такую масавую дабрачыннасць у адносінах да хворых— не магу. Хацелася б верыць у лепшае. Але, не дай Бог, калі дзяцей бяруць для іншых мэт. Давайце не забываць, яны з радыяцыйнай зоны, з унікальнага на ўвесь свет куточка. Апрамененыя... Зусім нецярпіма становіцца, калі хтосьці на гэтай бядзе бяздушна спекулюе». Гэтыя радкі з апублікаванага 28 сакавіка ў «Народнай газеце» артыкула «З-за мяжы не вярнуліся». Матэрыял гэты, як пісала пазней у «Поиску» С. Саўрасава, стаў у Польшчы ледзь не «бестселерам». І не дабавіў ён ні павагі да нас, ні давер'я, ні спагады. Вельмі шкада, што праяўленая там, за мяжой, гуманнасць, звычайная чалавечая дабрыня, спагада ў нас часам вось так адмятаецца. Замест гэтага з'яўляюцца беспадстаўныя падазрэнні на тое, што дзяцей бяруць для доследаў. Наша псіхалогія, відаць, адмаўляецца зразумець, што людзі могуць дапамагаць проста так, па душы, па сэрцу.

Аднак сапраўды, у такой тонкай справе неабходна разбіраць кожны канкрэтны выпадак асобна. Трэба ўлічваць і маральны бок справы, і юрыдычны. Працаваць тут ёсць над чым.

Вось такія думкі прагучалі на гэтай сустрэчы. Было паведамлена, што чарговая партыя чарнобыльскіх дзяцей адпраўляецца днямі ў суседнюю краіну. Адпачнуць, падлечацца, знойдуць новых сяброў. І вельмі хочацца спадзявацца, што ніякіх брудных «гульняў» за іх спінамі не будзе.

**Калі вы хочаце дапамагчы «Водгуку» — зрабіце гэта. Вашы грошы пойдуць на добрую справу. Разліковы рахунак: 700358, МФО 400019, Белжылсацбанк.**

А. СЛАНЕЎСКІ.

